ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 49 (2399) 8 снежня 1994 г. Выдаецца з 1955 г.

Цана 40 рублёў.

## 74-я ЎГОДКІ СЛУЦКАГА ПАЎСТАННЯ



# А ПРАЎДА ЗАКРАСУЕ...

Ісціна аб тым, што ўсё ў рэшце рэшт вяртаецца да самога сябе, была падмацавана халодным восеньскім днём 26 лістапада ў вёсцы Грозаў, што ў Капыльскім раёне. Як і 74 гады таму, яна жыве духам патрыятызму, узнёсласці, вернага служэння Беларусі. Намаганнямі Аргкамітэта БНФ "Адраджэньне" тут была арганізавана імпрэза, прысвечаная фарміраванню 2-га Грозаўскага палка, які ўдзельнічаў у баях з бальшавіцкімі войскамі падчас Слуцкага Збройнага Чыну ў лістападзе-снежні 1920 года. Мінскія навукоўцы, рабочыя, студэнты, мастакі, вайскоўцы, а таксама мясцовае жыхарства сталі сведкамі ўзрушальнага відовішча. У памяці ажывала панарама складаных і трагічных падзей, што ляжалі ля вытокаў барацьбы нашага народа за сваю незалежнасць у 20-х гадах.

"Рэальны сацыялізм" мала паўплываў на лад жыцця і знешні выгляд гэтага колішняга мястэчка. У цэнтры яго, як і калісьці, знаходзяцца крамы-мураванкі, у якіх цяпер можна прыдбаць газавыя лямпы, ліхтары... Насупраць знаходзіцца двойчы акалечаны будынак гатычнай магутнасці, які быў узведзены першапачаткова як касцёл. Пасля "воссоединения" ў XVIII стагоддзі Расія перапрафілявала яго пад праваслаўную царкву і цэлыя 200 гадоў імкнулася і тутэйшым беларусам накінуць профіль рускага чалавека, бальшавіцкі "празелетызм" імкнуўся ўстанавіць тут, як і па ўсёй Беларусі, новую "канфесію" -- калгасную, вернікі якой паступова, але няўхільна пакідалі сваю сельскагаспадарчую епархію. Сёння тут клуб і праўленне мясцовага калгаса.

(Заканчэнне на 4-й стар.).

**НА ЗДЫМКУ: устанаўленне ў вёсцы Грозаў крыжа ў памяць аб героях Слуцкага паўстання.**

**Фота Анатоля КЛЕШЧУКА.**

## БАЛЮЧАЯ ТЭМА

# ЕЖА НАША НАДЗЁННАЯ

**Сёння праблема харчавання людзей для нашага грамадства -- адна з самых балючых. Апошнім часам лічаць за лепшае гэтую тэму кранаць менш -- магчыма, каб не сыпаць соль на рану. Пераканацца ў тым, што гэта сапраўды рана, і вялікая на хворым целе краіны, зусім не цяжка. Дастаткова зайсці ў любы гастраном і паназіраць дзве-тры хвіліны. Што там можна ўбачыць! Ну, напрыклад, пастаянныя чэргі ў хлебныя аддзелы або купкі пажылых людзей, якія цiснуцца да сцен: чакаюць -- хутка павінны прывезці малако і тварог. Вось яшчэ адна сцэнка, хутчэй нават сцэна з трагедыі: у чарзе перада мной ужо немаладая жанчына, акуратна, прыстойна апранутая, узважвала два тонкія скрылікі звычайнай каўбасы. Прадаўшчыца паклала тавар на вагі, назвала цану. Жанчына апусціла вочы, дастала з кішэні грошы, пералічыла -- не хапала недзе каля сотні "зайцоў". І наша "савецкая" прадаўшчыца, якая звычайна не церпіць ніякіх размоў з пакупнікамі, са спачуваннем адрэзала невялічкі кавалачак каўбасы ад аднаго са скрылікаў і прадыктавала пакупніцы ўжо трохі меншы кошт! Карацей, што тут казаць, і так усё зразумела. Але тым не менш спецыялісты па праблемах харчавання пакуль яшчэ і ў нас працуюць, у прыватнасці, у лабараторыі гігіены харчавання і таксікалогіі Навукова-даследчага санітарна-гігіенічнага інстытута. Кіруе лабараторыяй кандыдат медыцынскіх навук, намеснік дырэктара інстытута Валерый КАЛЕСНІКАЎ.**

-- Наша лабараторыя існуе даўно, фактычна з моманту стварэння самога інстытута гігіены і санітарыі, а яму хутка споўніцца ўжо 70 год. Заўсёды, традыцыйна ў нас вывучаліся і агульныя пытанні харчавання, і пытанні, звязаныя з забруджваннем прадуктаў. Гэтых галоўных доследных накірункаў мы імкнёмся прытрымлівацца і зараз. Зроблена многа, але самым плённым лічу перыяд прыкладна з 86-га да 93-га года. Тады мы займаліся вывучэннем фактычнага харчавання насельніцтва на тэрыторыях, забруджаных радыенуклідамі пасля чарнобыльскай катастрофы.

*-- На жаль, нам звычайна прыходзіцца больш гаварыць пра недахопы. Тым больш у харчаванні, і тым больш сёння...*

-- Выяўленыя хібы -- увогуле для нас характэрныя, іх фіксавалі і да 86-га года. Гэта перавага ў рацыёне жывёльнай ежы, недахоп гародніны і фруктаў, дарэчы, апошняе назіралася нават у летне-асенні перыяд.

(Заканчэнне на 3-й стар.).

# ФЕСТЫВАЛЬ НА ДЗЯДЫ

## СУБ'ЕКТЫЎНЫЯ НАТАТКІ ПАВОДЛЕ...

У пачатку лістапада ў Мінску адбыўся IV фестываль "Адраджэнне беларускай капэлы". Чатыры канцэрты, якія прайшлі ў Камернай і Канцэртнай залах Белдзяржфілармоніі, абудзілі розныя думкі, пачуцці, уражанні...

Перагорнута апошняя канцэртная старонка, і трошкі шкада, што сёлетні фестываль -- ужо здабытак гісторыі. Шкада той фестывальнай святочнай атмасферы яднання выканаўцаў ды слухачоў, якія жыва і непасрэдна ўспрымалі тое, што гучала са сцэны...

Што запомнілася? Аднадушныя ўздыхі пасля кожнага канцэрта: "Добра, але мала". Дзяўчынка Аліса, якая ўпершыню апынулася на канцэрце класічнай музыкі, узрушана расказвала аб "меладычнасці" ды "плаўнасці" музыкі, якую чула, ды аб сваім жаданні яшчэ паслухаць менавіта вакальны канцэрт. Наогул, шмат было на канцэртах дзяцей і моладзі. Новае пакаленне выбірае? Спадзяюся, што так...

IV фестываль "Адраджэнне беларускай капэлы" прадставіў айчынны музычны рамантызм. Увогуле, характэрнай рысай рамантычнай эпохі з'яўляецца росквіт самабытных музычных школ, да ліку якіх цалкам належыць і беларуская. Імёны М.Клеафаса Агінскага, Ю.Крашэўскага, В.Дуніна-Марцінкевіча і ягонай дачкі Камілы, А.Абрамовіча, Ф.Міладоўскага, братоў Ельскіх, Напалеона Орды, С.Манюшкі складаюць старонку айчыннай музычнай культуры, да апошняга часу нам амаль што невядомую. На жаль, таму што ўсе яны былі людзьмі высокаадукаванымі і таленавітымі, як правіла, не ў адной галіне мастацтва, а для некаторых з іх складанне музычных твораў было адметнай часткай жыцця, але не звязанай з асноўным заняткам.

Нагадаю, што ў XIX стагоддзі павялічваецца колькасць музычных салонаў і менавіта там збіраюцца гурткі музыкантаў, мастакоў, літаратараў. Ды й, наогул, дамашнія мастацкія вечарыны былі значна больш распаўсюджанымі, чым канцэртныя выступленні артыстаў, і ўплывалі вельмі моцна не толькі на выканальніцкую, але й на кампазітарскую дзейнасць.

(Працяг на 7-й стар.).

Мае цеплае прывітанне
усім сябрам роднай Беларусі
7. X. 1994 Алеў Вало

**Фінскі мастак А.Ахола-Вало мае беларускія карані. Мы неаднойчы расказвалі аб яго творчасці на старонках "Голасу Радзімы". Нядаўна мы зноў атрымалі вестачку з Фінляндыі і прывітанне ад земляка.**

*(Матэрыял "Куточак Беларусі ў Фінляндыі" змешчаны на 7-й стар.).*

## ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

З ПРЭЗІДЭНЦКАЙ КАНЦЫЛЯРЫІ

### ВЫЗВАЛЕНЫ МІНІСТР ГАНДЛЮ

Указам Прэзідэнта Беларусі А. Лукашэнкі вызвалены ад займаемай пасады міністр гандлю Валянцін Байдак. Камітэт па барацьбе з карупцыяй устанавіў, што спадар міністр, выкарыстоўваючы сваё службовае становішча, спачатку займеў дзяржаўную 3-пакаёвую, а неўзабаве яшчэ і 4-пакаёвую кватэру.

Даведаўшыся аб кватэрных штукарствах міністра В. Байдака, Прэзідэнт і падпісаў згаданы вышэй Указ.

### АДКЛІКАНЫ П. САДОЎСКІ

Як паведамілі БелаПАНу ў адміністрацыі Прэзідэнта Беларусі, Аляксандр Лукашэнка падпісаў указ аб вызваленні Пятра Садоўскага ад абавязкаў Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Рэспублікі Беларусь у Федэратыўнай Рэспубліцы Германіі. Каардынатар парламенцкай апазіцыі БНФ Сяргей Навумчык у гутарцы з карэспандэнтам БелаПАНа назваў гэты факт пацвярджэннем няпэўнай кадравай палітыкі Прэзідэнта і выказаў меркаванне, што на яе не мае ўплыву кіраўніцтва Міністэрства замежных спраў рэспублікі.

ЗЯМЛЯ-КАРМІЦЕЛЬКА

### ХАРЧУ ЎСЁ МЕНШ

За апошнія дзесяцігоддзі плошча сельскагаспадарчых угоддзяў у Беларусі скарацілася больш чым на мільён гектараў.

У ходзе зямельнай рэформы для будаўніцтва жылля, дач і арганізацыі фермерскіх гаспадарак было перададзена каля 100 тысяч гектараў зямлі. Такім чынам, з сельскагаспадарчага карыстання (дарогі, жыллё, жывёлагадоўчыя памяшканні і інш.) выведзена каля 20 тысяч гектараў зямлі. Акрамя таго, расшырана плошча прыватнага падворку, дзе сярэдні гектар зямлі дае прыкладна на тону збожжавых адзінак менш, чым грамадскі сектар. Сумарны недабор прадукцыі раслінаводства па ўказаных прычынах скараціў вытворчасць прадуктаў харчавання для нармальнага гадавога харчавання паўтара--двух мільёнаў чалавек.

ВІЦЕБСКІ ФЕСТЫВАЛЬ

### "ГОСЦІЦА" — ПЕРАМОЖЦА КОНКУРСУ

Мінскі фальклорны тэатр "Госціца", які прадставіў аднаактовы балет "Інтуіцыя міфа", стаў уладальнікам першай прэміі (тры мільёны рублёў) па выніках першага нацыянальнага конкурсу танца ў рамках VIII Міжнароднага віцебскага фестывалю сучаснай харэаграфіі. Другое месца (два мільёны рублёў) -- у групы "ТАД" з Гродна.

ДЛЯ МУЗЕЯ А.МІЦКЕВІЧА

### АД ЗЕМЛЯКОЎ ПАЭТА

Унікальныя кнігі папоўнілі фонды Дома-музея вялікага паэта-гуманіста Адама Міцкевіча ў Навагрудку.

Адна з іх -- прыжыццёвы зборнік яго вершаў, што выйшаў у свет больш чым паўтара стагоддзя таму ў Познані. А прыслалі яго ў музей земляні паэта Леслі і Данута Спячынскія, якія жывуць цяпер у Лондане. Дарэчы, акрамя вершаў, у зборніку ёсць некалькі песень, у прыватнасці, песня пра Нёман, музыку для якой на словы Міцкевіча напісаў кампазітар Караль Ліпінскі. Экспазіцыю музея папоўніл таксама выпушчаныя ў 1834 годзе ў Парыжы факсімільным выданнем паэма "Пан Тадэвуш", кніга "Конрад Валенрод. Гражына", іншыя творы, выдадзеныя ў апошнія гады ў Польшчы. Усе яны ўвойдуць у новы раздзел экспазіцыі, які рыхтуецца да 200-годдзя паэта.

"АРЛЯНЯ" — "ІГЛІТ"



Неяк не па-нашаму стаў выглядаць вядомы і адзін з першых у Мінску плавальны басейн "Арляня". Так перайтварыла яго фірма "Ігліт" (у перакладзе з англійскай гэта азначае "Арляня"). Яна стала спонсарам і дала сродкі на капітальны рамонт басейна, які прыйшоў у занапад. Яна ж узяла на сябе і ўсе расходы па яго ўтрыманню, арганізацыі спаборніцтваў. Апякунства "Ігліта" дазволіла адмяніць плату і за заняткі дзяцей у ДЮСШ, а іх каля 800.

Акрамя таго, не менш 20 гадзін у тыдзень басейн аддадзены ў распараджэнне груп па навучанню плаванню школьнікаў усяго Цэнтральнага раёна сталіцы. Цяпер гэтыя дзеці таксама атрымалі магчымасць займацца бясплатна.

Ну а каб часткова пакрыць выдаткі, у басейне стварылі спецыяльную вячэрнюю праграму для заможных людзей, якія могуць тут і адпачыць, і прыняць сауну, і пазагараць, і паплаваць. У басейне прыгожа, утульна, камфортна.

**НА ЗДЫМКУ:** у час вячэрніх праграм можна прыемна адпачыць непасрэдна ля вады.

МАЛЕНЬКАЯ РАДАСЦЬ



Ужо трэці год мінскае кафэ "Узбекістан" у дзень пажылых людзей дае дабрачынныя абеды для пенсіянераў. Так было і сёлета. На святочны абед кафэ запрасіла больш за 50 чалавек. З задавальненнем пакаштавалі пажылыя людзі прыгатаваныя спецыяльна для іх апетытныя стравы і, вядома, пагутарылі з сябрамі. Смачны абед і гасціннае абслугоўванне аблегчылі іх не вельмі радасныя будні.

ПАЛОМНІЦТВА

### ДА ВОСТРАЙ БРАМЫ

Адбылося паломніцтва католікаў Мінска да іконы Маці Божай "Вострабрамскай", якая знаходзіцца ў Вільнюсе.

У капліцы, дзе захоўваецца святыня, на беларускай мове прайшла служба. У час знаходжання нашых суайчыннікаў на літоўскай зямлі яны сустракаліся з адзінаверцамі, а таксама з прадстаўнікамі беларускай інтэлігенцыі літоўскай сталіцы.

Паломніцтва арганізавалі Беларуская каталіцкая грамада і вернікі мінскай парафіі святой Тройцы.

АФІЦЫЙНА

### АХОВА ПАМЯЦІ

Па ўнесенай МЗС і ўзгодненай з Міністэрствам абароны і Міністэрствам фінансаў прапанове ўрадам рэспублікі прынята распараджэнне аб заключэнні Пагаднення паміж Беларуссю і Польшчай аб ахове памяці і пахаванні ахвяр войнаў і рэпрэсій. Весці перагаворы па падрыхтоўцы Пагаднення ўпаўнаважана дэлегацыя з аўтарытэтных людзей.

ДОБРАЯ РЭЧ...




Гродзенскі завод "Радыёпрыбор" пачаў выпуск новага малагабарытнага стэрэафанічнага радыёпрыёмніка. Навінка, створаная маладым канструктарам Валерыем Мянчэнем, вызначаецца сучасным дызайнам і працуе ў двух дыяпазонах УКХ. Добрая і патрэбная рэч, толькі наракалі яе так, што і купляць не захочаш, -- "Монстр".

**НА ЗДЫМКУ:** інжынер Вольга ГУЛЬНІЦКАЯ дэманструе новы радыёпрыёмнік.

У мінулым нумары мы паведамлялі пра чарговае пасяджэнне Рады ТБМ імя Ф.Скарыны. Сёння друкуем Зварот, з якім Рада звярнулася да грамадзян нашай рэспублікі.

З ПАСЯДЖЭННЯ РАДЫ ТБМ

# ЗВАРОТ ДА ГРАМАДЗЯН БЕЛАРУСІ!

Апошнім часам, не беспадстаўна разлічваючы на падтрымку найвышэйшых асобаў улады, у нашай краіне актывізавалі сваю дзейнасць антыбеларускія сілы, якія маюць за мэту спыніць працэс беларускага нацыянальнага адраджэння і станаўлення незалежнай дзяржавы Рэспублікі Беларусь. Дзеля гэтага ў сродках масавай інфармацыі -- у газетах, на радыё і тэлебачанні ставяцца пад сумненне праўдзівыя факты беларускай гісторыі, ідзе байкот выканання Закона аб мовах, адкрыта гучаць заклікі да замены дзяржаўнай нацыянальнай сімволікі, да вяртання Беларусі ў абдымкі імперыі.

Запаволілася работа па аднаўленню гістарычных беларускіх найменняў вуліц, вёсак і гарадоў у нашай краіне, навучальныя ўстановы, калгасы і саўгасы паранейшаму носяць імёны партыйных дзеячаў і дзяржаўных кіраўнікоў былога Саюза, а таксама людзей, якія засведчылі сябе ў гісторыі як ворагі незалежнай беларускай дзяржавы. Рускамоўныя шыльды па-ранейшаму застаюцца на сценах большасці адміністрацыйных будынкаў, новастворaных устаноў і камерцыйных структур, у значнай ступені рускамоўным застаўся гарадскі і міжгародні транспарт. Шэраг газет і часопісаў на нашай мове, сістэма беларускага кнігавыдання пакідаюцца сёння на волю стыхіі дзікага рынку. Тармозіцца падрыхтоўка да пераводу вышэйшых навучальных устаноў на беларускамоўнае навучанне, і беларус, па-ранейшаму не мае магчымасці атрымаць адукацыю ў ВНУ на роднай мове. Ідзе адкрыты наступ на беларускую мову ў школах, сярэдніх спецыяльных навучальных установах. Прыпадна, у стылі мінулых часоў, нацыянальна свядомыя грамадзяне Беларусі абвінавачваюцца ў нацыяналізме, распальванні нацыянальнай варожасці, разбурэнні стабільнасці і спакою ў грамадстве -- толькі за тое, што беларус пачаў гаварыць на мове сваёй дзяржавы, на мове сваёй зямлі, мове сваіх продкаў. І ўсё гэта адбываецца ў краіне, дзе прадстаўнікам іншых нацыянальнасцяў, таксама як і іншым мовам, ніхто і нішто не пагражае. Беларуская зямля, на жаль, становіцца прытулкам усяму антыбеларускаму, карумпаванаму, крымінагеннаму. Гэта не можа не трывожыць усіх сумленных грамадзян Беларусі, бо пад пагрозай незалежнасць нашай дзяржавы.

Рэспубліканская Рада ТБМ заклікае ўсіх свядомых грамадзян Беларусі, патрыётаў Бацькаўшчыны, ствараць супрацьстаянне гэтай змрочнай антыбеларускай імперскай плыні, на падставе Канстытуцыі і законаў не даць магчымасці задушыць імкненне беларусаў стаць сапраўднымі гаспадарамі на сваёй зямлі.

Набліжаюцца выбары ў Вярхоўную Раду краіны. Гэта выключна адказныя выбары. У нас ёсць магчымасць выбраць у вышэйшы орган сваёй улады людзей, адданых Беларусі, людзей, заклапочаных яе лёсам, самаахвярных і сумленных. Толькі ўсведамляючы свой нацыянальны абавязак і вялікую адказнасць перад дзецьмі і ўнукамі, перад будучыняй Радзімы, мы можам разлічваць на годнае месца ў супольнасці еўрапейскіх народаў.

Жыве Беларусь!
18 лістапада 1994 г.

## ЦІ АДКРЫЕЦЦА ПАНСІЯНАТ ДЛЯ ВЕТЭРАНАЎ?



На фоне шэрых будынкаў-каробак нашых "спальных" раёнаў, якія ў такую пару года падаюцца яшчэ больш шэрымі і няўтульнымі, гэтае новае арыгінальнае збудаванне на ўскрайку Мінска, светлае, у акаймаванні чырвоных ярусных дахаў, выглядае яркім і святочным.

Належыць яно заводу-гіганту МАЗу, які разлічваў мець у ім пансіянат для сваіх ветэранаў працы. Іх, дарэчы, зараз на заводзе налічваецца каля 7 000 чалавек.

Будынак выглядае незвычайным не толькі звонку, але і знутры. Увайшоўшы ў яго, адразу звернеш увагу на невялікі зімні сад, створаны па заказу супрацоўнікамі нашага батанічнага сада. Больш таго, на працягу ўсяго падарожжа па дому вакол вас будуць кветкі і расліны ў прыгожых керамічных вазах. Пансіянат разлічаны на 110 асоб, якія змогуць уладкавацца ў адна- і двухмесных пакоях з усімі выгодамі, а каму пашчасціць, дык той можа трапіць нават і ў "люкс".

Тут ёсць усё неабходнае для спакойнага і ўтульнага жыцця. На сучасным узроўні зроблены харчблок, кухня, халадзільныя ўстаноўкі, вельмі ўтульная сталоўка. Але што адрознівае пансіянат ад іншых устаноў такога кшталту, дык гэта магчымасць жыць разам і адначасова існаваць самому па сабе. Такога раней не было. На кожным паверсе ёсць невялічкія, па-хатняму абсталяваныя кухні, дзе можна прыгатаваць ежу для сябе ці сваіх гасцей. Калі няма жадання карыстацца агульнай пральняй, дык для ўласнай бялізны ёсць асобныя пакойчыкі з невялічкімі пральнымі машынамі. Не забыліся тут і пра тых, у каго праблемы са здароўем. Да паслуг жыхароў абсталяваны працэдурны і фізкабінеты. Тут вам зробяць кардыяграму ці аналіз крыві, можна прайсці курс інтэнсіўнай тэрапіі і нават абследавацца на такім сучасным апараце, як УЗІ. Для адпачынку ветэранаў ёсць актавая зала на 140 чалавек з кінапраекцыйнай і грымёрнай для артыстаў, міні-бар, сауна з басейнам і нават цырульняй. Але і гэта далёка не ўсё ў спісе паслуг, якія павінны ствараць аптымальныя ўмовы для тых, хто ўсё жыццё аддаў заводу і ў каго кватэрныя праблемы да гэтага часу засталіся не вырашанымі.

Будынак падрыхтаваны прыняць першых жыхароў. Засталося толькі маленькае "але". У сённяшняй эканамічнай сітуацыі завод наўрад ці "пацягне" фінансаванне пансіяната. І вось паўстала пытанне, ці дадуць датацыі на ўтрыманне пансіяната гарадскія ўлады, ці наогул трэба будзе перадаваць будынак у ведамства горада для ўтварэння ў ім дома састарэлых. Вядома, справа таксама вельмі патрэбная, але занадта шмат грошай укладзена заводам у яго будаўніцтва, каб узяць і проста так аддаць. А пакуль што пытанне, як і ўсё ў нас, вырашаецца вельмі марудна і застаецца адкрытым.

А дом для састарэлых -- закрытым.

**Таіса БАНДАРЭНКА.**

---

БАЛЮЧАЯ ТЭМА

## ЕЖА НАША НАДЗЁННАЯ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

Таксама заўсёды ў нас быў дэфіцыт спажывання рыбных прадуктаў і, што асабліва хвалявала, недастатковае выкарыстанне алею. Што тычыцца ўжо пэўнай спецыфікі харчавання людзей з забруджаных тэрыторый, тут проста катэгарычна патрабуецца баланс вітамінаў, чаго мы таксама не мелі. Пры даследаваннях высвятляўся велізарны недахоп вітамінаў групы В, вітаміна С.

*-- У беларускіх вёсках амаль ці не галоўнай карміцелькай па-ранейшаму застаецца карова. Але добра вядома, што на забруджаных тэрыторыях моцна абмежавана спажыванне малака і малочных прадуктаў з уласных падвор'яў.*

-- Так, і ў выніку ў насельніцтва там выяўлены дэфіцыт мінеральных рэчываў, у першую чаргу кальцыю і фосфару.

Але нельга сказаць, што людзі цалкам былі кінуты на волю лёсу. У 1986--1990 гадах у раёнах, якія пацярпелі больш за ўсё і дзе харчаванню надавалася даволі пільная ўвага, а прадукты траплялі ў асноўным прывазныя, там якраз сітуацыя была лепшай (напрыклад, у Гомельскай і Магілёўскай абласцях у параўнанні з Віцебскай). Але, на жаль, апошнім часам стан пагаршаецца паўсюль. Людзі проста вымушаны ўсё часцей пераходзіць на прадукты, дасягальныя ў першую чаргу па сваёй цане. У забруджаных раёнах пакуль захоўваецца некаторая дапамога ў дзіцячым харчаванні, скажам, бясплатныя школьныя снеданні. Але я ўжо ведаю выпадкі, калі і гэтая невялікая сацыяльная дапамога паступова згортваецца, бо не хапае грошай.

*-- Ну а калі казаць увогуле пра наша харчаванне сёння, якую адметную рысу вы б адзначылі?*

-- Гэта безумоўны рост спажывання малака і хлеба, што зноў-такі звязана ў першую чаргу з дасягальнасцю названых прадуктаў для найбольш бедных пластоў насельніцтва Беларусі.

Яшчэ адна асаблівасць, можа не такая відавочная, як першая, але таксама дастаткова адметная: недахоп клятчаткі, г.зн. грубай часткі ежы, без чаго парушаецца пераварванне ежы ў страўніку (застой), адсюль запаленне кішэчніка і ў выніку схільнасць да рака кішэчніка, узровень захворвання на які ў Беларусі даволі высокі. А ўсё з-за недахопу гародніны, фруктаў, зерневых (хлеба грубага памолу, з вотруб'ем). Вы толькі паглядзіце: звычайная, традыцыйная для Беларусі гародніна, якая раней каштавала капейкі, сёння па цане набліжаецца да мясных прадуктаў. Вось і атрымліваецца, што звычайны качан капусты, буракі, морква робяцца не па кішэні для пенсіянераў, іншых малазабяспечаных людзей.

Ну а пра нейкія экзатычныя фрукты няма нават сэнсу і казаць. Нам хаця б сваімі прадуктамі забяспечыць кожнага.

*-- Валерый Сяргеевіч, вы гэта ўсё высветлілі, занатавалі ў сваіх навуковых справаздачах, а што ж далей? Ці ёсць хаця б якія-небудзь практычныя зрухі? Ці не застаюцца ваша работа, здабытая інфармацыя марнымі?*

-- Вы вельмі правільнае пытанне задалі. Мы распрацавалі нормы харчавання насельніцтва забруджаных раёнаў па ўсіх групах: для дарослых, дзяцей, цяжарных. Гэта вельмі вялікая праца. Яна рабілася, зразумела, не для "птушачкі". Звярталіся да нас і спецыялісты з былога Дзяржкамітэта па працы (зараз Міністэрства працы), калі распрацоўвалі свой нарматыўны "харчовы кошык". Даводзілі мы сваё экспертнае заключэнне па заказу адпаведных дзяржаўных органаў адносна харчавання розных груп зняволеных, для ваеннаслужачых. Практычна атрымліваецца так, што там, дзе вырашаюцца на ўрадавым узроўні нейкія пытанні, звязаныя з харчаваннем, без нас не абыходзіцца. Іншая справа, наколькі наша заключэнне ўплывае на канчатковае рашэнне, якое часта залежыць у большай ступені ад эканамічных умоў, чым ад навукі ці медыцыны...

*-- Але ад вас усё ж такі не "адмахваюцца"?..*

-- Ад Міністэрства аховы здароўя не так проста "адмахнуцца"... Асабліва, калі прымаюцца нейкія законы. А рэалізацыя гэтых, звычайна неблагіх законаў нярэдка выклікае шмат нараканняў. У сённяшнім жыцці нашы прапановы і заключэнні проста цяжка рэалізаваць.

Але ёсць прыклады і адваротныя, калі да нас сапраўды прыслухоўваюцца. Вось, скажам, апошнім часам у краіне сталі практычна зводзіцца мерапрыемствы, звязаныя з ёдавай прафілактыкай, што для жыхароў Беларусі заўсёды было вельмі важна. Недахоп ёду выклікае захворванне на эндэмічны зоб. Але гэта толькі верхавіна айсберга. На справе ад утрымання ёду ў арганізме залежыць разумовае развіццё дзяцей: высветлілася, што захворванне на крэтынізм непасрэдна звязаны з недахопам ёду.

Увогуле мяркуюць аб узроўні ёду па колькасці захворванняў на зоб. З 70-га да 80-га года гэты паказчык зніжаўся, а з 85-га пачаўся яго рост. Безумоўна, паўплывала тут і чарнобыльская аварыя. Дык вось, мы сталі актыўна ўзнімаць гэтую праблему. Найбольш эфектыўная прафілактыка -- і гэта прызнана ў свеце -- ёдаванне солі. У нас ёдзістая мазырская соль -- яна дробная, белая, чыстая. Але ў насельніцтва спрацоўвае стэрэатып, што лепшая -- буйная соль з Украіны, якая не адпавядае гігіенічным нормам на ўтрыманне ёду. Таму ўрад прыняў рашэнне забараніць увоз у Беларусь няёдзістай солі, правесці адпаведную работу з насельніцтвам і ўдасканаліць у Мазыры тэхналогію вырабу ёдзістай солі ў дастатковай колькасці.

*-- Валерый Сяргеевіч, такім чынам, сёння і вы, і ваша лабараторыя вымушаны працаваць практычна толькі "пад заказ"?..*

-- Так, калі раней была магчымасць планаваць навуковую работу пад вырашэнне тых праблем, якія мы самі бачылі і лічылі актуальнымі і важнымі, то зараз звычайна працуем над навуковымі праграмамі, што фарміруюцца пад вырашэнне вялікай канкрэтнай праблемы, толькі адзін з аспектаў якой тычыцца нас -- у прыватнасці, у агульнарэспубліканскай праграме "Здароўе" ў нас ёсць "свой" раздзел. Або яшчэ варыянт, калі мы фінансуемся праз сістэму сацыяльных заказаў: нам заказалі работу -- мы зрабілі і атрымалі грошы. За кошт гэтага ў асноўным зараз і жывём. Праўда, жывём цяжка. Здараецца, што і заработную плату не можам своечасова супрацоўнікам выдаць. А цяпер вось сітуацыя ўскладнілася яшчэ і тым, што значна павялічыліся тарыфы на камунальныя паслугі. У выніку, нядаўна ў інстытут дасланы такі шматмільённы рахунак за ацяпленне нашых службовых памяшканняў, што нават і не ведаем, што рабіць. Хіба адключыць усё, павесіць на дзверы замок і разысціся хто куды?! Але тым не менш, думаю, знойдзецца нейкае больш прымальнае выйсце, бо мы, наша праца ўсё ж патрэбныя людзям, грамадству, якое прэтэндуе называцца "цывілізаваным".

**Гутарку вяла Галіна УЛІЦЁНАК.**

---

## ПРАТЭСТ ТБМ

### АДКРЫТЫ ЛІСТ ПРЭЗІДЭНТУ АКАДЭМІІ НАВУК БЕЛАРУСІ АКАДЭМІКУ Леаніду СУШЧЭНЮ

**З нагоды наведвання Акадэміі навук Прэзідэнтам Аляксандрам Лукашэнкам**

Менская гарадская Рада Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны здзіўлена і абурана тым, што Вы дагэтуль пры выкананні службовых, дзяржаўных функцыяў і ў час выступлення на агульным сходзе нацыянальнай АН, якое трансліравалася па тэлебачанні на ўсю Беларусь, не карыстаецеся дзяржаўнай мовай, мовай карэннага этнасу. Узнікае пытанне: ці Вы не разумееце ролі і месца асобы Прэзідэнта Акадэміі навук дзяржавы Беларусь, ці свядома падыгрываеце шавіністычным сілам, якія імкнуцца прыдушыць першыя парасткі распачатага адраджэння беларускай мовы, беларускай культуры, беларускай сістэмы навукі, выхавання і навучання.

Спадзяемся на тое, што Вам і Прэзідыуму АН добра вядомы Канстытуцыя (артыкул 17), Закон аб мовах (артыкулы 2, 11, 27, 28, 29, 31, 32, 35, якія ўведзены ў дзеянне ў поўным аб'ёме з 1 верасня 1994 года), Закон аб адукацыі (артыкул 6). Дык чаму ж Вы, шаноўны прэзідэнт, чыталі даклад перад навукоўцамі і насельніцтвам усёй Беларусі не на беларускай мове ў парушэнне пералічаных артыкулаў законаў? Аб меры Вашай асабістай адказнасці і прэзідыума АН падумайце самі. Але ці можаце Вы ўявіць сабе, што Прэзідэнт АН Расеі ці Польшчы пры выкананні службовых абавязкаў прынародна не карыстаецца мовай свайго народа? Ці гэта для Вас з'яўляецца перспектыўнай фундаментальнай навуковай праблемай, рашэння якой Вы на сёння не бачыце? На тэлеэкранах была добра бачна Ваша роля "патуральніка" Прэзідэнту краіны Аляксандру Лукашэнку, які таксама не карыстаецца на службе дзяржаўнай мовай.

Хто ж будзе вяртаць 10 мільёнам беларусаў іх родную, Богам дадзеную мову, якую сілком адабралі? Хто ж будзе адраджаць беларускую мову -- аснову асноў развіцця нацыянальнай культуры і навукі? Хто павінен даць новае жыццё і развіццё беларускай нацыянальнай ідэі? Хто, калі не Акадэмія навук і яе кіраўнік прэзідэнт! Час ідзе: Закон аб мовах прыняты ў 1990 годзе, а Акадэмія навук спіць летаргічным сном.

Просім Вас праз сродкі масавай інфармацыі растлумачыць Вашу пазіцыю як дзяржаўнай асобы ў адносінах да лёсавыратавальных праблемаў па стварэнні беларускамоўнага прафесійнага і бытавога асяроддзя ў суверэннай дзяржаве Беларусь.

Прынята на пасяджэнні Рады 29 лістапада 1994 г.

**Ад імя Рады яе старшыня прафесар Мікола САВІЦКІ.**

## ДЗЕ ПАХАВАНЫ Антон СОКАЛ-КУТЫЛОЎСКІ



У N16 "Голасу Радзімы" за 1994 год быў апублікаваны матэрыял, у якім падаваліся некаторыя мала вядомыя звесткі з жыцця аднаго з кіраўнікоў Слуцкага паўстання Антона Сокал-Кутылоўскага. Сёлета ў Мінск прыязджаў яго сын Леанід Антонавіч Сокал-Кутылоўскі, які ў апошнія гады жыве на Украіне і вельмі хацеў бы вярнуцца ў Беларусь. Ён пабываў у Таварыстве беларускай шляхты, сустракаўся з Анатолем Грыцкевічам, з якім адбылася ўзаемазацікаўленая гутарка.

На жаль, расказаць штосьці пра слуцкі перыяд бацькавага жыцця Леанід Антонавіч не мог, таму што, наколькі я разумела, тэма гэта наогул ніколі не кранаeлася ў сям'і. І нават тое, што стала вядома пра Антона Сокал-Кутылоўскгаа з архіваў КДБ, было ў нейкай меры адкрыццём і для сына.

Блізкія ўспаміналі, што, вярнуўшыся з месцаў зняволення, Антон Андрэевіч заставаўся вельмі добразычлівым, спакойным і стрыманым чалавекам. Пра перажытае не расказваў і не скардзіўся, умеў рабіць па дому абсалютна ўсё, нявестцы дапамагаў і за дзецьмі глядзець, і абед гатаваў. Пасля вайны сям'я А. Сокал-Кутылоўскага была раскідана: жонка з дачкой жылі ў Польшчы, і хутка ён атрымаў дазвол і пераехаў да іх у горад Шчэцін. Там ён і пахаваны, аб чым сведчыць фотаздымак, які перадаў нам Леанід Сокал-Кутылоўскі.

Дзіяна ЧАРКАСАВА.

# А ПРАЎДА ЗАКРАСУЕ...

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

Яшчэ менш пашанцавала помніку першай паловы XIX стагоддзя Грозаўскаму палацу, так званаму палацу Хрушчыка, пабудаванаму ў стылі ранняга класіцызму. Пасля таго як мясцовая школа абжыла новы будынак, ён існуе сам па сабе і захоўвае ў сваёй памяці восень 1920-га.

У лістападзе 1920 года жыхарства мястэчка і навакольных вёсак у гэтым палацы запісвалася ў палкавыя батальёны, каб на Беларусі "закрасавала праўда". Грозаўскія ваяры мужна змагаліся супраць бальшавіцкай навалы, разгортваліся ў баявыя шыхты на вельмі вялікай прасторы ад Грозава--Слуцка--Вызны--Лютавіч...

Яны змагаліся за тое, каб Беларусь была "сама сабой", каб Расія і Польшча былі яе добрымі суседкамі і крэўнымі славянскімі сёстрамі. Але гэта пярэчыла глабалістычным уяўленням крамлёўскіх "летуценнікаў". Яны знялі з сібірскіх франтоў "славутую" Омскую дывізію, узмацніўшы яе кітайскімі інтэрнацыяналістамі.

Пайшлі доўгія гады забывання геранчнага чыну случчакоў, нават вёска Грозаў стала называцца на расійскі капыл -- Грозава. Здавалася, што за гэтым татальным правалам памяці людзі забыліся пра падзеі восені 1920 года. Але не! Пажылыя людзі (пераважна жанчыны), якім ужо за 70, упершыню ўспаміналі сваіх землякоў -- удзельнікаў паўстання, ажывала ў памяці тое, што цішком пераказвалася як патаемнасць...

І не дзіва, што сімвал -- крыж вайсковай славы, які халодным днём 26 лістапада 1994 года неслі ад палаца Хрушчыка (дзе ішоў калісьці запіс у ваяры) да будынка колішняга касцёла--царквы--клуба, дзе ў той час ксёндз і поп блаславілі іх на святую справу, выклікаў вялікую цікавасць і змусіў задумацца.

Крыж вайсковы, які з'яўляецца ў хрысціянстве падканфесійным, быў устаноўлены на цэнтральнай плошчы мястэчка. Асвяціў яго, а таксама сказаў высокапатрыятычную прамову святар Свята-Ефрасіннеўскай царквы з Івянца айцец Віктар. На мітынгу выступіў старшыня Аргкамітэта па святкаванню 74-х угодкаў Слуцкага Збройнага Чыну прафесар Беларускага эканамічнага універсітэта Мікола Савіцкі. Ён адзначыў, што падзеі 1920 года, якія разгортваліся на Случчыне, за гонар палічыла б кіраўніцтва любой краіны. Але ў нас інакш, перашкаджаюць "разные взгляды и неоднозначность". Таму БНФ замест дзяржавы змушаны выконваць функцыі па ўшанаванню герояў Случчыны. У сваім выступе народны дэпутат Беларусі Ігар Гермянчук акрамя ўсяго адзначыў, што сяляне Беларусі заўсёды былі арыентаваны на беларуска-патрыятычныя сілы Бацькаўшчыны і гэтая традыцыя вартая і па сённяшні дзень. Навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі АН Беларусі Ніна Стужынская называла дакладныя імёны грозаўцаў, жыхароў іншых мясцінаў, якія "пайшлі паміраць, каб жыла Беларусь".

Старшыня Рады Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" Ганна Сурмач, а таксама наш зямляк з Бельгіі, ураджэнец Клецкага раёна Янка Жучка пажадалі, каб гэта свята зрабілася агульнадзяржаўным і адзначалася так, як яго святкавалі ўвесь час беларусы, што жывуць у краінах заходняга свету. Вельмі сімвалічна прагучала выступленне маладога мясцовага настаўніка Міколы Рыбака, які абгрунтаваў неабходнасць узгадавання дзяцей не на абстрактных развагах аб патрыятызме, а на "малой" гісторыі, што з'яўляецца падставай тварэння "вялікай" гісторыі.

Ад імя гасцей, усіх прысутных была выказана падзяка старшыні Грозаўскага сельсавета А.Грыцкевічу за ўраўнаважаны, удумлівы падыход да святкавання ўгодкаў Слуцкага Збройнага Чыну ў сваёй мясцовасці і спрыянне яму.

Мікола АНЦЫПОВІЧ.

## З АЎСТРАЛІІ

# НІШТО НЕ ЗАМЕНІЦЬ РОДНАГА ДОМУ

Сувязі з Аўстраліяй у нас заўсёды былі слабыя, нават пасля І з'езда беларусаў свету яны не ўзмацніліся. Эміграцыя там мае даволі сталы ўзрост і з недаверам адносіцца да новых грамадскіх арганізацый. І калі пасля нашых віншаванняў з Калядамі нам пазваніў Ігар і прапанаваў супрацоўніцтва, для мяне гэта было вялікай знаходкай.

Ігар Лакцееў пераехаў у Аўстралію пяць гадоў назад па анкеце незалежнай эміграцыі, набраўшы максімальную колькасць балаў -- 110. Якраз там патрэбны былі інжынеры-электроншчыкі, і ён вырашыў паспрабаваць лёс. Пасля пераезду адразу ж адчулася, што жыць у чужым асяродку не так проста, нават калі вакол усяго хапае. І ён вырашыў пазнаёміцца з мясцовымі беларусамі, каб падтрымліваць духоўную сувязь з Бацькаўшчынай. Старыя людзі прынялі яго не адразу, але прыгледзеўшыся, што хлопец сумленны і пісьменны, даручылі яму самую адказную працу -- ён стаў сакратаром беларускага аб'яднання.

Нядаўна Ігар быў у Мінску. Ён прыехаў, каб наладзіць эканамічныя кантакты. З сабой ён прывёз значную суму грошай, сабраную беларусамі Аўстраліі для нашых хворых дзетак з Гомеля.

Падчас сустрэчы я папрасіла яго расказаць пра беларускі асяродак у Аўстраліі. Замест адказу ён працягнуў мне лісткі, спісаныя прыгожым почыркам, і сказаў: "Спачатку прачытай, гэта напісаў чалавек, які аддаў усё сваё жыццё Беларусі, хаця і пражыў далёка ад яе, самы паважаны беларус у Аўстраліі, удзельнік Другога усебеларускага кангрэсу, чалавек, які верыў усё сваё жыццё, што Беларусь будзе незалежнай. Міхась Зуй сорак чатыры гады ўзначальвае беларускае грамадскае аб'яднанне, а цяпер ён вельмі цяжка хварэе".

Вытрымкі з лісткоў...

...14 мая 1948 года ў Аўстралію прыбыла першая група самотных беларусаў. Кожны беларус, нават маючы дыплом, павінен падпісаць кантракт, па якому ён абавязаўся адпрацаваць на цяжкіх фізічных работах (лесараспрацоўкі, вырубка трыснягу, пракладка каналізацыі). Жанчыны з маленькімі дзецьмі жылі ў гэты час у спецыяльна адведзеных лагерах. Пасля двух гадоў працы кожны быў волен ехаць у любое месца. Непрывітлівая чужына яднала беларусаў, і яны гуртаваліся ў вялікіх гарадах Аўстраліі: Сідней, Мельбурн, Адэлаіда, Пэрт, дапамагалі будаваць адзін аднаму дамы. І ўсе марылі вярнуцца на Радзіму, калі будзе знішчаны сталінскі рэжым.

...25 сакавіка па ініцыятыве сп. Клуніцкага заснавана Беларускае аб'яднанне ў Новай паўдзённай Валіі -- НПВ. Выпускаем часопіс для беларусаў "Новае жыццё", які інфармаваў іх аб правах і абавязках, а таксама аб падзеях у свеце. У Мэльбурне створана Беларускае аб'яднанне ў Вікторыі, якое ўвайшло ў БА НПВ. Старшынёй гэтых дзвюх арганізацый выбралі мяне. На супольным пасяджэнні выбрана Галоўная ўправа, у якую ўвайшлі мой намеснік Уладзімір Сідлярэвіч, сябры і паплечнікі П.Гуз, С.Шнэк, М.Ціхан.

...Навязваю сувязь з Ліберальнай, Рабочай партыямі Аўстраліі, Дарадчым камітэтам, Радай добрых суседзяў, Злучанай Радай эмігрантаў, каб разам працаваць, святкуем кожнае нацыянальнае свята: угодкі абвешчання незалежнасці Беларусі актам 25 сакавіка 1918 года, Другі ўсебеларускі кангрэс, Слуцкую абарону, вечарыны, прысвечаныя Янку Купалу, Я.Коласу, Максіму Багдановічу і інш.

...Як магу, спрабую прадставіць Беларусь як дзяржаву, а не правінцыю Расеі, якой яе ўсе лічылі на Захадзе. Кожны год на міжнародным дыпламатычным бале беларуская маладая пара годна рэпрэзентуе Беларусь у нацыянальным адзенні за асобным сталом, над якім вісіць наш бел-чырвона-белы сцяг.

...Арганізую беларускі мешаны хор, які выступае на нацыянальных урачыстасцях, фестывалях, міжнацыянальных святах.

...Актыўны ўдзел прымаем у міжнародных канферэнцыях Сусветнай Антыкамуністычнай лігі, на якія арганізоўваю беларускіх дэлегатаў не толькі з Аўстраліі, але і з Амерыкі, Англіі, Нямеччыны, а грошы на дарогу збіраем па ўсіх краінах. Сам раблю сотні кіламетраў па Аўстраліі, цярплю лаянку, часта ўкладваю і свае грошы, але мэта дасягнута -- дэлегат адпраўлен. У асноўным на гэтых канферэнцыях дэлегатам быў наш былы сакратар Алесь Алехнік.

...Працуючы на грамадскай працы, нават ніколі не быў у адпачынку, пасля працы на фабрыцы прыходзіш дамоў, а тут лісты, званкі, да поўначы вырашаеш розныя пытанні. Многія не вытрымлівалі такой нагрузкі, адыходзілі ад нас. Дванаццаць гадоў таму назад прыйшоў да мяне Алехнік і сказаў: "Міхась, я думаю пакідаць грамадскую працу і буду жыць для сябе, як жывуць другія беларусы". І мне было шкада яго, але ж і заставіць яго быць побач я не меў права...

А потым Ігар яшчэ доўга расказваў пра іншыя справы аб'яднання, пра тое, як балюча яны ўспрынялі чарнобыльскую трагедыю, як многа закупляюць лекаў, шпрыцаў, вітамінаў, як займаюцца аздараўленнем хворых беларускіх дзяцей.

Пасля беларускай тэматыкі перайшлі на Аўстралію, краіну эмігрантаў. У асноўным яе жыхары складаюцца з трох хваль эміграцыі -- Англіі, Італіі, Грэцыі і апошняй -- Азіі. Жыццёвы ўзровень у краіне вельмі высокі, моцная сацыяльная абарона чалавека, дзякуючы прафсаюзам. Тут склаўся ў асноўным клас з сярэднім дастаткам, што азначае ўласны дом з трыма спальнямі і сем'і з трыма дзецьмі. Ёсць і беспрацоўныя, якія кожны тыдзень атрымоўваюць дапамогу ў памеры 175 долараў, бясплатную кватэру, медабслугоўванне, льготны праезд, бясплатнае навучанне дзяцей. І гэта ўсё пры эканамічнай дэпрэсіі 12 працэнтаў.

-- Мне вельмі падабаецца Аўстралія, -- дабавіў Ігар, -- горы каля дзелавога Сіднэя, пакрытыя эўкаліптавымі лясамі, якія вылучаюць эфірны алей і здалёку падаюцца блакітнымі, прыгожыя сонечныя пляжы на беразе акіяна, гарналыжныя трасы пад прамысловым Мельбурнам, дзе зімой выпадае снег.

Ён расказваў, а я, гледзячы на яго сумныя вочы, успаміналa беларусаў Аўстраліі, Міхася Зуя, якому так і не давядзецца пабачыць Радзіму, думала, як добра, што я тут, у роднай Беларусі, у сябе дома, таму што Бацькаўшчыну нельга замяніць ніякім дабрабытам.

Ніна ПЕТУХОВА.

## З БЕЛАСТОЧЧЫНЫ

# ЧАРГОВЫ ПЛЕНУМ ГП БГКТ

На чарговым пасяджэнні Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Беластоку падводзіліся вынікі культурна-асветнай дзейнасці ў бягучым годзе, навучанне роднай мове ў пачатковых і сярэдніх школах, былі акрэслены напрамкі працы ў наступным годзе. У пасяджэнні прынялі ўдзел прадстаўнікі некалькіх ваяводскіх устаноў: школьнай кураторыі, аддзела культуры, Дома культуры, мясцовай прэсы і радыё, а таксама бургамістры Бельска, Гайнаўкі і намеснік прэзідэнта г.Беластока, войты гмінаў у Гайнаўцы, Нарве і Чаромусе.

З інфармацыі старшыні ГП Янкі Сычэўскага вынікала, што незалежна ад абмежавання праз Міністэрства культуры Польшчы да мінімуму так званага "дафінансавання мерапрыемстваў" праведзена іх звыш васьмідзесяці, у тым ліку: 4 конкурсы для вучняў пачатковых школ, 6 раённых аглядаў аматарскіх гурткоў і на іх базе -- першы фестываль беларускай песні ў Беластоку (раней яны называліся цэнтральнымі элімінацыямі) з удзелам 70 мастацкіх гуртоў, свята беларускай культуры ў Беластоку, культурныя сустрэчы Беласток--Гродна ў Гродне, Купалле ў Белавежы, фестываль абрадных калектываў у Нарве, 16 беларускіх фестынаў у паасобных гмінах Беласточчыны і гэтак далей. Мясцовыя аматарскія калектывы прымалі ўдзел у фальклорных фестывалях у Пінску, Гродне, Гданьску і Варшаве.

Намеснік старшыні, яна ж школьны інспектар Тамара Русачык у сваёй інфармацыі засяродзілася на праблемах вывучэння беларускай мовы, якое вядзецца ў 43 пачатковых школах з лікам 3 900 вучняў і 2 ліцэях -- 630 вучняў. У бягучым школьным годзе амаль увесь прырост вучняў на амаль 400 асоб і 2 школы адбыўся ў Гайнаўцы дзякуючы заканчэнню пабудовы чарговай школы і агульнаадукацыйнага ліцэя. Але асноўная заслуга ў гэтым дзеячаў гайнаўскага асяроддзя і асабліва настаўнікаў упамянутага ліцэя.

Як заўсёды на пленарных пасяджэннях ГП, адны дыскутанты затрымліваліся на дасягненнях, іншыя на патрэбе далейшага пашырэння грамадскай дзейнасці. Да новых момантаў трэба аднесці: абмеркаванне прапановы прэзідыума ГП аб арганізацыі ў Беластоку Міжнароднага фестывалю беларускай песні беларускага замежжа і засяроджанне ўвагі на ўмешванні пасла ўкраінскага пасольства ў Польшчы ў нацыянальныя пытанні насельніцтва Падляшша. Прынята нават заява аб занепакоенасці гэтым фактам і накіравана паслу. Члены ГП не ставілі перашкод у развіцці на Бельшчыне ўкраінскіх арганізацый, на што яны маюць права. Але не дазволяць адмаўляць членам бельскага многагадовага калектыву "Васілёчкі" ў далейшай яго працы, прапанаваць Беларускаму музею ў Гайнаўцы фінансавую дапамогу ў заканчэнні пабудовы ўзамен за пераўтварэнне яго ва ўкраінскі музей, абяцаць членам вясковых аматарскіх калектываў замежныя турнэ, калі яны прызнаюць сябе ўкраінскімі. Гэта ўжо праявы шкодніцтва і нацыяналізму.

На заканчэнне ўдзельнікі пленума заслухалі канцэрт невялікага беластоцкага гурта "Рэаль".

У.ЮЗВЮК.

Польшча.

249

**ЗНАЧЭННЕ ДЗЕЙНАСЦІ БНР.** Гісторыя адвяла для беларускіх палітыкаў вельмі мала часу для дзяржаўнай дзейнасці. Але яны не ўпусцілі свой шанс і зрабілі для Айчыны, што маглі -- ратавалі людзей ад нямецкіх рэпрэсій, вялі іх да нацыянальнай свядомасці, абаранялі беларускія землі ад расцягвання на кавалкі суседнімі дзяржавамі, заяўлялі ўсяму свету аб жаданні беларусаў жыць незалежна і вольна. І трэба помніць, што беларускія патрыёты стварылі не проста беларускі ўрад. Яны стварылі Беларускую Народную Рэспубліку. Трэба помніць і тое, што члены Рады і ўрада БНР ніколі не былі калабарацыяністамі, бо абіраліся не немцамі-акупантамі, а беларускім народам. Дзейнасць беларускіх урадаўцаў, што праходзіла ў самых неспрыяльных умовах, патрабавала гераізму. І не віна, а бяда іх, што распачатая імі справа гвалтоўна прыпынілася наступленнем бальшавіцкай Расіі.

## 26. БАРАЦЬБА ЗА НЕПАДЗЕЛЬНАСЦЬ БНР ВА ЎМОВАХ САВЕЦКА-ПОЛЬСКАЙ ВАЙНЫ 1919—1930 ГАДОЎ

У канцы 1918 года тэрыторыя Беларускай Народнай Рэспублікі апынулася паміж чатырма

250

ўладамі: нямецкай, якая згортвалася разам з адводам войск, польскай (Аўгустоўскі павет), савецкай і літоўска-беларускай з цэнтрам у Вільні. У ходзе далейшай барацьбы яна была падзелена паміж дзвюма новымі дзяржавамі --бальшавіцкай і шляхецкай. Што гэта? Недарэчнасць, вынік памылак і пралікаў ці непазбежны лёс?

### 26.1. Міжнароднае становішча

**УДЗЕЛ ПРАДСТАЎНІКОЎ БНР У ПАРЫЖСКАЙ МІРНАЙ КАНФЕРЭНЦЫІ.** 18 студзеня 1919 года ў Парыжы адкрыўся міжнародны кангрэс па выпрацоўцы мірных умоў з Германіяй і яе саюзнікамі. Падчас мінулай вайны паабвальваліся вялікія імперыі -- Расійская, Германская, Аўстра-Венгерская, Асманская. На іх месцы гатовы былі зацвердзіцца новыя нацыянальныя дзяржавы. Яны чакалі ад міжнароднай сустрэчы справядлівага вырашэння сваёй будучыні. Чакала гэтага і БНР, бо якраз у пачатку 1919 года выспявала савецка-польская вайна за панаванне на Беларусі.

Спецыяльна для ўдзельнікаў Пражскай канферэнцыі старшыня ўрада БНР і міністр замежных спраў рэспублікі Антон Луцкевіч падрыхтаваў мемарандум з выкладаннем гісторыі Беларусі. Дакумент быў складзены на падставе працы прафесара М.Доўнар-Запольскага "Асновы дзяржаўнасці Беларусі". А каб кіраўнікі канферэнцыі лепш арыентаваліся ў беларускіх справах, да мемарандума прыкладалася яшчэ і кар-

251

та БНР. Беларускі прадстаўнік Д.Сямашка прыехаў у Парыж у складзе літоўскай дэлегацыі пад кіраўніцтвам доктара Вальдэмараса.

На канферэнцыі ўсе пытанні вырашала "вялікая пяцёрка" -- прэзідэнт ЗША Вільсан, прэм'ер-міністр Вялікабрытаніі Лойд-Джордж, прэм'ер-міністр Францыі Клемансо, прэм'ер-міністр Італіі Арланда і прадстаўнік Японіі барон Макіна, хоць усяго ў вайне супраць Германіі ўдзельнічала 27 дзяржаў. Беларусы перш за ўсё звязвалі свае спадзяванні з прэзідэнтам ЗША. Яшчэ ў пачатку 1918 года з Амерыкі выйшла праграма пасляваеннага ўладкавання з 14 пунктаў, у якой прадугледжвалася магчымасць стварэння на руінах былых імперый новых вольных дзяржаў.

Але практычна зрабіць гэта было не так проста. Маладыя краіны, што паўставалі на руінах царскай Расіі, грызліся паміж сабой за кожны кавалак імперскай спадчыны, а тым часам з усходу насоўвалася пагроза бальшавізму. Прадстаўнікі Беларусі, Украіны, Эстоніі, Латвіі, Літвы, Азербайджана патрабавалі прызнання незалежнасці і дапамогі ў барацьбе з бальшавікамі. У супрацьвагу ім прадстаўнікі "Рускай Палітычнай Нарады" даводзілі, што незалежніцкі рух такі ж небяспечны для Расіі, як і бальшавіцкі. Яны настойвалі на прызнанні толькі культурна-аўтаномных правоў народаў у складзе новай расійскай дэмакратычнай рэспублікі.

У такіх складаных абставінах вялікія дзяржавы вырашылі падтрымаць урад Калчака. У барацьбе з Саветамі ім было зручней абапірацца на

252

агульнарасійскага дыктатара, чым на шэраг нацыянальных дзяржаў, якія і між сабой не маглі памірыцца. Урад Калчака атрымаў юрыдычнае прызнанне, гэта значыць стаў правапераемнікам Часовага ўрада, а тыя дзяржавы, што ўзніклі на месцы былой Расійскай імперыі, прызнаваліся толькі фактычна. Калчак, зразумела, міжнародную падтрымку не адкінуў і абяцаў новаўтвораным дзяржавам аўтаномію. 18 чэрвеня дзеячы Беларусі, Украіны, Азербайджана, Эстоніі, Грузіі, Латвіі, Паўночнага Каўказа выказалі пратэст супраць рашэнняў канферэнцыі, але яго проста не заўважылі.

**ВЕРСАЛЬСКІ МІР.** 28 чэрвеня 1919 года пераможаная Германія падпісала Версальскі мір. Брэсцкі трактат 1918 года, паводле якога была падзелена Беларусь, касаваўся. Германія абавязвалася прызнаць незалежнасць усіх тэрыторый, што ўваходзілі ў склад Расійскай імперыі да пачатку першай сусветнай вайны. Але права на рэпарацыі з Нямеччыны атрымлівала толькі Расія. Беларусь і астатнія дзяржавы, што вылузнуліся з-пад расійскай апекі, маглі разлічваць на нейкую частку іх і толькі з ласкі метраполіі.

Рашэнні Парыжскай канферэнцыі садзейнічалі захаванню Расійскай імперыі, якая насуперак намерам версальцаў стала бальшавіцкай. Акрамя таго, вялікія дзяржавы, і найперш Францыя, патуралі імперскім амбіцыям Польшчы з надзеяй, што гэтая краіна можа супрацьстаяць і Германіі, і Савецкай Расіі. Адкінуўшы ідэю стварэння на месцы былой царскай Расіі садружнасці незалежных дзяржаў, "вялікая пяцёрка" пад-

Захар ШЫБЕКА

ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ Ў XIX - XX СТАГОДДЗЯХ

(РАЗДЗЕЛЫ З НЕНАДРУКАВАНАЙ КНІГІ)

253

рыхтавала глебу для непазбежнай польска-савецкай вайны за Беларусь. Беларускае прадстаўніцтва на канферэнцыі не змагло прадухіліць неспрыяльныя для свайго народа рашэнні. Не дапамог і прыезд у Парыж у маі 1919 года Антона Луцкевіча.

Парыжская канферэнцыя завяршыла сваю працу ў студзені 1920 года, так і не дабіўшыся мірнай стабілізацыі ў Еўропе. Першая сусветная вайна была і першай бойкай імперый за самавынішчэнне. На жаль, яна не ўдалася. А таму і пагроза другой сутычкі не здымалася. Гэтага, відаць, тады ў Версалі яшчэ не ўсведамлялі. Імперская ідэалогія заставалася пануючай.

### 26.2. Савецкая акупацыя БНР і ўтварэнне БССР

**ГРОДЗЕНСКІ ФАРПОСТ БНР.** У сярэдзіне лютага 1919 года Чырвоная Армія замацавалася на лініі Вільня -- Ліда -- Слонім -- р. Шчара -- Агінскі канал -- Сарны. Большая частка БНР апынулася пад акупацыяй Савецкай Расіі. І толькі Гродзеншчына заставалася ў руках немцаў, і там дзейнічала яшчэ Беларускае краёвае праўленне (лакальная ўлада БНР). Нягледзячы на супрацьдзеянне палякаў, гэтая губерня аж да красавіка 1919 года заставалася жыццядзейным кавалачкам незалежнай беларускай рэспублікі. Ужо ў студзені 1919 года ў Гродне маршыравалі беларускія вайсковыя часці і выходзілі беларускія газеты. Дзейнічалі бела-

254

рускія павятовыя рады і камісары, якія вясной збіраліся дзяліць панскія землі. Раслі беларускія гурткі, развіваўся нацыянальны тэатр. І пагалоска пра тое разыходзілася па ўсёй Беларусі.

**АКУПАЦЫЙНАЯ ПАЛІТЫКА БАЛЬШАВІКОЎ.** Леніну не хацелася, каб бальшавіцкае войска ўспрымалася мясцовым насельніцтвам як акупацыйнае. Яшчэ 29 лістапада 1918 года ён разам са Сталіным адаслаў галоўнакамандуючаму І.Вацэцісу загад падтрымліваць стварэнне абласных часовых Савецкіх урадаў, якія б віталі чырвонаармейцаў як вызваліцеляў. Аб савецкіх рэспубліках гаворкі яшчэ не было. Але абставіны прымушалі рабіць гэта. На Беларусі бальшавікі сутыкнуліся з вялікай папулярнасцю ў народзе ідэі беларускай незалежнасці, якую пакінула пасля сябе БНР. Да таго ж яе ўлада яшчэ трымалася на Гродзеншчыне. Для маскоўскіх камісараў стала зусім відавочным, што без дэкларавання незалежнасці на беларускіх землях не ўтрымацца.

**ДЗЕЙНАСЦЬ НАЦЫЯНАЛ-КАМУНІСТАЎ.** Тым больш, што з другога боку на ленінскі ўрад нейкі ціск аказваў і беларускі рух, які разгортваўся на тэрыторыі Савецкай Расіі сіламі бежанцаў і нацыянал-камуністаў. Беларуская праца гуртавалася вакол Беларускага Нацыянальнага Камісарыята (Белнацкама), які быў створаны бальшавіцкім урадам у Петраградзе 31 студзеня 1918 года пры Народным камісарыяце па справах нацыянальнасцяў. "Камісарам беларусаў" назначылі Алеся Чарвя-

255

кова, яго таварышам -- Уладзіслава Скарынку, сакратаром -- Зміцера Жылуновіча. Ініцыятарам стварэння Белнацкама выступіла Беларуская сацыял-дэмакратычная рабочая партыя (БСДРП), якая ўзнікла восенню 1917 года на базе петраградскіх арганізацый БСГ, а ў красавіку 1918 года ператварылася ў звычайную беларускую секцыю Расійскай Камуністычнай Партыі (бальшавікоў) -- РКП(б). Такія секцыі ўзнікалі сярод бежанцаў і ў іншых гарадах Расіі.

У сакавіку 1918 года Белнацкам пераехаў у Маскву і працаваў там на працягу года. У Петраградзе, Віцебску і Смаленску былі створаны яго аддзелы. А ў расійскія губерні, дзе пражывалі беларусы, пасылаліся эмісары. Апарат Белнацкама вельмі варожа ставіўся да БНР і выхоўваў беларусаў у духу пакорлівасці бальшавікам. Яго незалежніцкія памкненні не выходзілі за рамкі стварэння Беларускай вобласці на правах аўтаноміі ў складзе Савецкай Расіі.

**ПАЗІЦЫЯ АБЛАСНІКОЎ.** Аднак нават гэтую вельмі сціплую праграму кіраўнікі Аблвыкамзаха і Паўночна-Заходняга абкама РКП(б) не падтрымлівалі. У верасні 1918 года дэлегаты III з'езда Заходняй вобласці, куды ўваходзілі Смаленская і неакупаваныя немцамі часткі Магілёўскай і Віцебскай губерняў, назвалі сваю падапечную тэрыторыю Заходняй камунай. Прапанаваная Белнацкамам назва Беларуска-Літоўская вобласць для абласнікоў не падыходзіла.

Кнорын разгарнуў у бальшавіцкім друку цэлую кампанію супраць "беларускіх шавіністаў,

256

хоць яны і выступалі пад савецкім флагам. І не дзіва, што на захопленых беларускіх землях абласнікі не адкрылі ніводнай беларускай школы, не выдалі ніводнага беларускага падручніка. Не палічылі яны патрабным і перавесці Юр'еўскі універсітэт у Віцебск ці Смаленск. А сяляне патрабавалі беларускіх школ нават у Смаленскай губерні (сяло Светлае Красненскага павета).

**НАЦЫЯНАЛЬНАЯ АКТЫЎНАСЦЬ БЕЖАНЦАЎ.** Больш радыкальна была настроена беларуская бежанская грамадскасць. Яна выказвалася за незалежную савецкую беларускую рэспубліку ў складзе Расіі. І гэта было вынікам таго нацыянальнага самасцвярджэння, якое не маглі прыпыніць і бальшавікі. У 1918 годзе ў Петраградзе працавалі вышэйшыя курсы па беларусазнаўству, у Маскве -- Беларускі народны універсітэт, дзе выкладалася беларусазнаўства. Культурна-асветныя гурткі беларусаў дзейнічалі ў Архангельску, Арэнбургу, Калузе, Арле -- практычна ўсюды, дзе пражывалі нашы землякі.

**ПАЛІТЫЧНЫЯ ГУЛЬНІ МАСКВЫ З НЕЗАЛЕЖНАСЦЮ БЕЛАРУСАЎ.** Так што ў расійскіх камуністаў было на каго аперціся ў "нацыянальным будаўніцтве" на Беларусі. Белнацкам спецыяльна рыхтаваў для таго кадры. Спачатку Масква ўсё яшчэ спадзявалася прымусіць беларусаў забыць пра незалежнасць. 23 снежня 1918 года бальшавіцкі УЦВК прымае рашэнне аб захаванні Заходняй камуны. Аднак ужо 25 снежня з Масквы ў Смаленск, дзе сядзела кіраўніцтва Заходняй камуны, ляцела тэлеграма ЦК РКП(б) з дазволам на фарміраванне беларускага савецкага ўрада.

МАСТАК Алесь АХОЛА-ВАЛО

# КУТОЧАК БЕЛАРУСІ Ў ФІНЛЯНДЫІ

**Паважаная рэдакцыя "Голасу Радзімы"!**
**Вам піша Людміла Налівайка, навуковы супрацоўнік Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук Рэспублікі Беларусь. У Фінляндыі, у горадзе Хяменліна, даследую беларускі перыяд творчасці беларуска-фінскага мастака Александэры Ахола-Вало. Пасылаю чатыры вершы-руно фінскай паэтэсы Тулікі Вуола. Яны напісаны паводле твораў мастака менавіта беларускага перыяду творчасці. Пераклад з фінскай на беларускую зрабілі Александэры Ахола-Вало і я. Гэтыя творы і вершы ўвойдуць у альбом, які мы плануем выдаць да 95-годдзя мастака. Ён нарадзіўся 27 студзеня 1900 года. Аляксандр Пятровіч -- пастаянны чытач вашай газеты, якая з'яўляецца жаданай і любімай у яго доме. Беларусь ён лічыць роднай і дарагой. Там прайшлі яго лепшыя гады, нарадзіліся тры дачкі: Вікторыя, Інта і Галіна. Вікторыя і Інта жывуць у Швецыі, Галіна -- у Расіі. Дарэчы, Галіна Іванова -- пляменніца Алеся Грубэ, народнага мастака Беларусі. У пачатку 1995 года яна збіраецца прыехаць у Мінск. Старэйшая дачка Вікторыя цікавіцца гісторыяй свайго дзеда -- Антона Нікановіча, які быў уніяцкім святаром у Віцебску.**

**У сакавіку 1995 года плануецца зрабіць выставу твораў Аляксандра Пятровіча ў Мінску і Віцебску. Запрашае яго спадар А. Мальдзіс -- кіраўнік Скарынінскага цэнтра, У. Скараходаў -- дырэктар Інстытута праблем культуры. З прапановай і падтрымкай у гэтай справе звярнуўся да яго і дырэктар Інстытута Расіі і Усходняй Еўропы Вальдэмар Меланка.**

У музеі Александэры Ахола-Вало ёсць "куточак" Беларусі, дзе змешчана каля дваццаці твораў мастака беларускага перыяду яго творчасці, пачынаючы з 1920 года, калі малады чырвонаармеец прыбыў у Беларусь, да 1930 года. Тут і малюнак "Беласток--Ліда", які быў выкананы з натуры ў час паходу "на Варшаву", аўтапартрэт з паходняй у руцэ (горкаўскі Данка), партрэты розных маладых людзей. У архіве, у альбомах ёсць нават малюнак, які зроблены ў майстэрні Ю. Пэна, куды хадзіў малады мастак у 1921--1922 гадах. Наведваў тады і майстэрню гравёра С. Юдовіна, слухаў лекцыі В. Ярмалаевай. Мінскі перыяд прадстаўлены большай колькасцю твораў -- лінарыт, акварэль, малюнак. У Мінску А. Ахола-Вало стаў сапраўдным майстрам лінарыту. Яго лінарытныя дошкі вытрымлівалі аграмадныя тыражы -- 28 тысяч! Працэс "зацвярдзення" праводзіўся ў лабараторыі, якую сам арганізаваў. Не было ў Мінску гравёра, які б працаваў у стольких выданнях! Фенаменальная колькасць і працаздольнасць. Аформіў "Новую зямлю" Якуба Коласа, "Плынь" Грамыкі, "Хвоі гавораць" К. Чорнага, "Угрунь" А. Александровіча, "Вясновы прамень" М. Мікановіча, "Ветры буйныя" П. Труса і інш. А колькі штампаў, эмблем, экслібрысаў выканаў. У экспазіцыі музея можна ўбачыць такія творы, як "Разбураная гаспадарка", "Балет", "Да святла", "Яўрэі на Свіслачы". Ёсць тут і акварэльны малюнак павільёна МОПР, мастаком-канструктарам якога быў Аляксандр Пятровіч. Павільён быў пабудаваны да адкрыцця Першай сельскагаспадарчай выставы ў Мінску (1930 год). Задача мастакоў-афарміцеляў заключалася ў тым, каб заклеймiць ганьбай сусветны бандытызм, які здзекуецца з пралетарыяту ўсяго свету. В. Волкаў маляваў фрэску "Гібель Сака і Ванцэці", М. Эндэ -- "Смерць праўдазнаўцы ў польскай дэфензіве". А. Ахола-Вало выканаў два манументальныя творы: "Голад кітайца. Здзекі" і "Пад турэцкім прыгнётам". Жудасныя сцэны прымусовай смерці, выкананыя ў традыцыях класічнага мастацтва, стварылі неабходнае агітацыйнае ўражанне на гледача, які верыў толькі ў дапамогу сусветнага пралетарыяту.

Адной з тэм была барацьба з недахопамі ў жыцці, раскрыццё гэтых недахопаў у гаспадарцы, упраўленні, у сферах чыноўнікаў. Была створана серыя графічных твораў на старонках часопісаў і газет. Сам мастак быў стваральнікам новых рубрык, дзе ў жанрах сатыры і гумару паказваліся цемра і галеча, безгаспадарчасць і недысцыплінаванасць. У гэтым бачыў сваю галоўную задачу мастака-выхавальніка, барацьбіта. Менавіта ў Віцебску і Мінску былі знойдзены шмат якія сімвалы яго навукі Эвахамалогіі -- "сродак перабудовы ўсёй жыццядзейнасці чалавека для мэтаў вышэйшага ўдасканалення".

**Людміла НАЛІВАЙКА.**

### БАЛЕТ



Радасць набліжаецца ад формаў
і прыгажосці,
Жыццёвы танец забываецца
у ленасці і ўзнёсласці за дзівоснае,
Таму што перамагаюць рухі танца
І прымушаюць ператвараць жыццё
ў ахопліваючую душу магію
таямнічасці.

Знікае катастрафічная ўзнёсласць,
якую перамагаюць рухі целаў.
Жаданне чалавека: у напружанасці
мускулаў
Ператварыцца ў вялікае пачуццё!

Моц перапаўняе цела і душу,
І гэтая моц дае магчымасць дзеяля таго,
каб чалавек жыў.
Гэтыя людзі -- танцоры жыцця
аб'ядноўваюць шчасце і здароўе.

### РАЗБУРАНАЯ ГАСПАДАРКА



Духоўнасць у бязладнасці.
Ужо няма зямлі пад гэтым жытлом.
Торф, вецер -- праз шчыліны вокнаў.
Няма шчасця
ад вялікіх дзюр на стале.
Тут не трымаецца ўсмешка.

Дзеці
пад вакном у тарфяным брудзе
у насыпе фундамента дома --
Іншага месца няма для гульняў.
Воз стаіць на двары на трох колах,
Пад чацвёртым -- жэрдка, завязаная пад
воссю воза.

Згнілі дошкі,
адыходзяць адна ад адной і яшчэ, яшчэ
трошкі, і разбурэнне непазбежнае,

### СЯМ'Я П'ЯНІЦЫ



Наша няшчасце ідзе рука аб руку
з гарэлкай.
Бруднае адзенне -- вопратка бяздушша,
І хустка на галаве жанчыны завязана
вузламі няшчасцяў.
Жудасны свет!
Дошкі падлогі разыходзяцца
пад нагамі,
Скардзяцца і таксама
жадаюць збегчы
з вечнай разбітасці паміж
чатырох сцен.[1]

[1] Малюнак з натуры па праобразу жыцця Малежыка -- аднадворцы па Малой Татарскай, 37.

# ФЕСТЫВАЛЬ НА ДЗЯДЫ

## СУБ'ЕКТЫЎНЫЯ НАТАТКІ ПАВОДЛЕ...

(Працяг. Пачатак на 1-й стар.).

Гэта таксама з'яўляецца адной з умоў буйнога росквіту ў XIX стагоддзі такіх жанраў фартэпіяннай музыкі, як вальс, паланез, мазурка, полька, накцюрн, серэнада, вакальных ды й іншых камерных твораў. Салоннае музіцыраванне абудзіла кампазітарскія здольнасці многіх з тых, хто ніколі й не лічыў сябе кампазітарам: паэтаў, мастакоў, акцёраў, грамадскіх дзеячаў; валодаючы, як было распаўсюджана, музычнымі інструментамі (падчас некалькімі), яны не толькі выконвалі (часцей за ўсё -- амаль на прафесійным узроўні) чужую музыку, але і пісалі ўласную, для сябе і сваіх сяброў.

І вось гэты подых "усеагульнай музыкальнасці", нейкую чароўную аўру свецкіх салонаў, рамантычную ўзнёсласць і прадэманстраваў, на мой погляд, наш сёлетні фестываль.

Першы канцэрт фестывалю -- манаграфічны, прысвечаны фартэпіяннай творчасці Напалеона Орды. Выканаўца -- Ігар Алоўнікаў. Думаю, не толькі для мяне адкрыццё гэтага кампазітара (дарэчы, больш вядомага як мастак-графік) было сапраўдным узрушэннем. Ягоны безумоўны талент, на маю думку, толькі пацвярджаюць водгукі, якія давялося пачуць, што ён эпігон Ф.Шапэна. Аднак пры ўсёй, на першы погляд, сходнасці творчага почырку між двума кампазітарамі існуе безумоўная розніца. Ужываючы тую ж, што і Шапэн, гарманічную празрыстасць, Орда карыстаецца і больш грунтоўнай, насычанай гармоніяй, але ўсё гэта тонка й натуральна. Ды й наогул, ці мог Орда, успрыняўшы тую ж музычную культуру, што і Шапэн, бо абодва з Рэчы Паспалітай, жылі ў адзін і той жа час у Парыжы, Орда, які не проста чуў -- адчуваў тое ж, што Шапэн, -- ці мог ён пісаць іншую музыку, інакшымі сродкамі? Яны былі амаль равеснікамі, да таго ж -- сябрамі. Шапэн па прыездзе Орды ў Парыж некаторы час кіраваў ягонымі музычнымі заняткамі. Часам яны разам выступалі ў музычных салонах і жартам выконвалі творы адзін аднаго без абвяшчэння аўтарства (характэрна: публіка не заўважала падмены -- праніклівая парыжская публіка!) -- ці не пацвярджае гэта высокую павагу, з якой ставіўся да кампазітарскай дзейнасці Орды Шапэн?! Ці яшчэ факт з біяграфіі: у 1847 годзе Орда быў абраны дырэктарам Італьянскай оперы. І гэта ў той час, калі ў Парыжы жыў, напрыклад, славуты Даніцэці!..

Нельга не адзначыць выканальніцкае майстэрства піяніста Ігара Алоўнікава, тое, як была складзена праграма: паступовае нарастанне дынамізму, кульмінацыйны вальс "Сузор'е", а потым -- кантрастная па каларыту "Калыханка", якая была выканана з бездакорным густам і майстэрствам. Прагучаў таксама Вальс у чатыры рукі з удзелам маладой піяністкі Настассі Пазняковай, якая прадэманстравала сапраўднае майстэрства ансамблевага выканання... Зразумела, што такая рэжысура не дапускае перапынку, таму праграма, пабудаваная без антракту, успрымалася сапраўды на адзіным дыханні.

Другі і трэці канцэрты прадставілі музыку беларускіх кампазітараў ды іх польскіх і расійскіх калег, якая гучала ў салонах Пецярбурга і Мінска. Чаму менавіта Пецярбурга? Сталіца Расійскай дзяржавы Пецярбург у той час прыцягвала музыкантаў з усяго свету. У XIX стагоддзі тут жылі і працавалі прадстаўнікі ці не ўсіх краін Еўропы, але найбольш моцны музычны ўплыў Пецярбург прыняў з Польшчы і з Беларусі. Тут выдаваліся газеты і часопісы, якія інфармавалі публіку аб культурных падзеях на Беларусі. Некаторыя з музыкантаў, як, напрыклад, С.Манюшка, які тройчы бываў у Пецярбургу з аўтарскімі канцэртамі, дзе дырыжыраваў уласнымі творамі, не жылі падоўгу ў сталіцы, але былі тут вельмі жаданымі гасцямі. Нагадаю, што С.Манюшка быў асабіста знаёмы з М.Глінкам і А.Даргамыжскім, а для Ц.Кюі ён стаў першым музычным настаўнікам, да якога апошні ставіўся з вялікай вучнёўскай пачцівасцю... Некаторыя ж, па асабістых ці палітычных абставінах вымушаныя пакінуць радзіму, надоўга знайшлі тут прытулак. Напрыклад, Восіп Казлоўскі, які ў 16-гадовым узросце быў запрошаны троцкім ваяводам Андрэем Агінскім выкладаць музыку маленькаму Міхалу Клеафасу, больш за трыццаць гадоў жыў у Пецярбургу, нават быў тут дырэктарам музыкі імператарскіх тэатраў (нагадаю, размова ідзе пра аўтара паланеза на словы Г.Дзяржавіна "Гром победы раздавайся", які колькі часу быў расійскім гімнам). Апошнія 12 гадоў жыцця Казлоўскі правёў на радзіме, на Магілёўшчыне. Таленавіты, вядомы кампазітар, ён кіраваў аркестрам і хорам графа Мурамцава. Можна толькі ўявіць майстэрства ды ўзровень таго аркестра з хорам у той час...

На "пецярбургскім" канцэрце прагучалі два фартэпіянныя паланезы Міхала Клеафаса Агінскага (пэўны час -- сенатара Расійскай імперыі -- во прыгоды лёсу! -- які па службовых справах завітваў у сталіцу). Не дзіва, што Агінскага лічаць непасрэдным папярэднікам Ф. Шапэна, бо ў ягонай творчасці жанр паланеза ўжо набывае рысы канцэртнай віртуознасці, уласцівыя рамантычнай трактоўцы гэтага жанру. Асноўным заняткам Агінскага, як і большасці магнатаў, была палітыка. Зрабіўшы імклівую кар'еру, ён на пасадзе дыпламата жыў у многіх краінах Еўропы, меў магчымасць сачыць за культурнымі падзеямі, добра ведаў музыку і музыкантаў таго часу. Ягоная сядзіба ў Залессі стала культурным цэнтрам еўрапейскгаа ўзроўню -- ці не адзіным на Беларусі па тым часе. М.Кл. Агінскі не лічыў сябе прафесійным кампазітарам, але кола ягоных творчых інтарэсаў уключала ў сябе не толькі фартэпіянныя ды вакальныя мініяцюры. Ён таксама аўтар оперы "Зеліс і Вількур, або Банапарт у Каіры". Дарэчы, у наступным годзе "Беларуская Капэла" будзе праводзіць фестываль з нагоды 230-х угодкаў з дня нараджэння М.Кл. Агінскага, дзе прагучыць поўны збор вядомых на гэты час ягоных твораў, уключаючы оперу і балет "Паланез" (музыку якога, аркестраваўшы фартэпіянныя творы Агінскага, напісаў сучасны беларускі кампазітар В. Кузняцоў). Запрашаем!



Працягваючы агляд "пецярбургскага" канцэрта, нагадаю імя Антона Абрамовіча, творы якога -- "Паланез", "Вальс" для фартэпіяна і вакальныя творы "Зязюлька", "Дуда", "Дзеванька" ды "Гарэліца" -- прагучалі ў канцэрце. Ураджэнец Віцебскага павета, ён быў першым прафесійным беларускім кампазітарам, што шырока выкарыстоўваў у сваёй музыцы мелодыі, інтанацыйныя і рытмічныя



звароты, уласцівыя беларускім народным песням і танцам. Ён таксама аўтар рамансаў і песень на беларускія тэксты (падкрэслю: першых пасля стагоддзяў невыкарыстоўвання ў прафесійнай музыцы беларускай мовы). З 1832 года А. Абрамовіч жыў у Пецярбургу, быў вядомы як піяніст-выканаўца і педагог (у 1846 годзе нават выдаў "Школу ігры на фартэпіяна"). Аб бліскучым піянізме, лірычнасці творчага почырку кампазітара сведчаць творы, якія былі выкананы на фестывалі.

Польскі музычны "струмень" у Пецярбургу быў прадстаўлены ў фестывальнай праграме фартэпіяннымі і вакальнымі творамі Марыі Шымаоўскай і п'есай Апалінарыя Концкага "Мара" для скрыпкі з фартэпіяна. Піяністка, педагог, кампазітар, Шыманоўская выступала з канцэртамі ў розных краінах Еўропы, тры апошнія гады жыцця (з 1828 года) правяла ў Пецярбургу. Яе дом часта наведвалі знакамітыя, у тым ліку і беларускія літаратары і музыканты (сярод іх -- А. Пушкін, А. Міцкевіч, М. Глінка). Апошні высока цаніў яе вакальныя творы. На музычных вечарынах гаспадыня часта выконвала творы М.Кл. Агінскага, кампазітарскі талент якога цаніла вельмі высока. Несумненны ўплыў музыкі Агінскага адчуваецца ў фартэпіяннай творчасці М. Шымаоўскай. У канцэрце таксама прагучаў яе раманс "Песня з вежы" на словы А. Міцкевіча з "Конрада Валенрода".

П'еса А. Концкага -- яшчэ адзін "дадатак" да агульнай карціны таго музычнага побыту. Вось некаторыя звесткі з біяграфіі кампазітара і скрыпача: пачаў выступаць у чатырохгадовым узросце, у 9 год атрымаў падарунак аўстрыйскай імператрыцы -- скрыпку Страдзівары (падчас канцэртаў у Вене), а Н. Паганіні так гаварыў пра ігру 11-гадовага юнака: "...хачу паставіць яго побач з найбольш вядомымі майстрамі гэтага інструмента...", а таксама пакінуў А. Концкаму па завяшчанню, адну са сваіх скрыпак ды некаторыя рукапісы... Амаль дзесяць гадоў правёў Концкі ў Пецярбургу, дзе быў салістам Рускага імператарскага аркестра. Аб ім, як выканаўцы і кампазітары, шмат пісалі музычныя крытыкі. Неаднойчы канцэртаваў скрыпач у беларускіх гарадах. Аб велізарнай яго папулярнасці сведчыць тое, што В. Дунін-Марцінкевіч прысвяціў яму два вершы, адзін з якіх, "Верш Навума Прыгаворкі", з нагоды канцэртаў Концкага ў Мінску ў 1856 годзе напісаў на беларускай мове...

Што ж адбывалася ў тыя часы ў мясцовым культурным жыцці? Хто прадстаўляў музычнае асяроддзе Мінска, Вільні, Віцебска?.. Якім было яно? Адказ на гэтае пытанне -- апошні канцэрт фестывалю.

Распачаў яго твор Юзафа Ігнацы Крашэўскага. Імя яго больш вядомае аматарам гістарычнай літаратуры, бо Крашэўскі -- аўтар некалькіх соцень раманаў па гісторыі Рэчы Паспалітай. Пісьменнік, паэт, мастак, этнограф, гісторык, грамадскі дзеяч, ён менш за ўсё лічыў сябе кампазітарам, таму што, па сведчанню А. Кіркора, "гэты дзіўны чалавек усё пісаў і пісаў, а калі вельмі стамляўся, маляваў ці іграў на фартэпіяна. У гэтых творах выяўлялася яго душа, яго сімпатыі да Літвы, да мясцовага люду". Але ягоная фартэпіянная фантазія сведчыць аб цудоўнай піяністычнай школе, што дазволіла аўтару ўжываць розныя, складаныя віды тэхнікі. Неяк язык не варухнецца назваць гэтага кампазітара дылетантам...

**Наталля СОБАЛЕВА.**

**НА ЗДЫМКАХ: народны артыст Беларусі Леў ГАРЭЛІК, удзельнік фестывалю; выступае Дзяржаўны акадэмічны сімфанічны аркестр Рэспублікі Беларусь.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

**(Заканчэнне будзе).**

# СЫНОЎНЯЯ ВЕРНАСЦЬ

Не так даўно ў сталічным Доме літаратара святкаваўся 35-гадовы юбілей Літаратурнага музея Якуба Коласа і 80-гадовы -- яго першага дырэктара, старэйшага сына паэта Данілы Канстанцінавіча Міцкевіча. Вечарына мела назву "Сыноўняя вернасць".

Мерапрыемства праходзіла надзвычай урачыста, дзякуючы яго арганізатарам -- кіраўніцтву Дома літаратара і навуковым супрацоўнікам Літаратурнага музея Якуба Коласа. Вялікая зала ледзь змясціла ўсіх жадаючых, тых, хто прыйшоў аддаць даніну павагі памяці перш за ўсё самога Якуба Коласа, а таксама павіншаваць са сталым юбілеем Данілу Міцкевіча, заслужанага дзеяча культуры нашай рэспублікі, вернага захавальніка песняровай спадчыны. Прыйшлі і сябры Коласавага дома, тыя, хто часта быў госцем вялікага паэта і тыя, хто наведваецца сюды пасля смерці гаспадара.

Мабыць даўно ўжо не збірала тутэйшая сцэна такога ганаровага (у прамым сэнсе гэтага слова) прэзідыума. У ім былі міністр культуры і друку Анатоль Бутэвіч і міністр замежных спраў Уладзімір Сянько.

Пачалася ўрачыстасць выступленнем маленькіх выхаванцаў Рэспубліканскага ліцэя пры Беларускай акадэміі музыкі. Выдатна чытала вершы Валянціна Мадэстава, з захапленнем выканала Валянціна Міцкевіч адзін з твораў старэйшага беларускага кампазітара Анатоля Багатырова, які таксама быў сярод гасцей.

Свята адкрыла цяперашні дырэктар Літаратурнага музея Якуба Коласа Зінаіда Камароўская. Яна расказала об гісторыі стварэння музея, успомніла добрым словам тых супрацоўнікаў, якія аддалі Дому Коласа свой талент, свае веды, і, канечне ж, віншавала Данілу Канстанцінавіча -- свайго папярэдніка і настаўніка.

Да віншаванняў дырэктара музея далучыліся нашы знакамітыя паэты і празаікі. Слова з віншаваннем бралі народны паэт і народны дэпутат Беларусі Ніл Гілевіч, народны пісьменнік Янка Брыль, старэйшы паэт, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Якуба Коласа Сяргей Грахоўскі, народны пісьменнік, старшыня Рэспубліканскага фонду культуры Іван Чыгрынаў, народны паэт Рыгор Барадулін і многія, многія іншыя.

Спіс знакамітых гасцей можна было б працягваць, бо на свяце было шмат прадстаўнікоў нашай літаратурнай, мастацкай і культурнай эліты.

На юбілей музея Якуба Коласа прыйшлі супрацоўнікі Аб'яднання дзяржаўных літаратурных музеяў, навукоўцы з літаратурных музеяў Янкі Купалы і Петруся Броўкі, а таксама прадстаўнікі Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі.

Разам з падарункам прыняў Даніла Міцкевіч ад гасцей шчырыя словы падзякі за адданую працу па ўшанаванню светлай памяці народнага паэта, за тое, што дапамог захаваць для будучых пакаленняў Дом Коласа -- калыску ягонай музы.

Віталі Данілу Канстанцінавіча і музейцаў-коласаўцаў Коласавы землякі -- народны хор Навасвержанскага лесазавода Стаўбцоўскага раёна. Парадавалі аўдыторыю народныя песні і музыка квартэта "Святлана" і ансамбля "Светач". Завяршыў праграму святочны нумар фальклорнага калектыву "Мінскі гармонік".

**Ганна ЗАЙЦАВА.**

# "АЛЬЯНС-АРТ" ДЭМАНСТРУЕ



У гэты дзень асноўная зала Мастацкага салона Саюза мастакоў Беларусі была закрыта для наведвальнікаў. Але ж праца там ішла, мітусіліся людзі, развешвалі на сценах карціны і размяшчалі на паліцах вырабы са скуры, дробную пластыку, кераміку, і літаральна на вачах беспарадак ператвараўся ў новую экспазіцыю, складзеную з твораў удзельнікаў Гродзенскай студыі "Альянс-Арт". Мастацкіх студый, суполак і груповак зараз ствараецца шмат, бо калі Саюз мастакоў аб'ядноўваў некалі людзей па роду іх прафесійнай дзейнасці, то зараз у такія невялікія "альянсы" сыходзяцца творцы, якія набліжаюцца адзін да аднаго па поглядах на жыццё і мастацтва, па схільнасцях, у рэшце рэшт, па характарах. Вось так у пачатку 1994 года па ініцыятыве мастака Гары Мазурава ў Гродне з'явілася гэтае невялікае, але, ужо зараз відаць, вельмі плённае аб'яднанне. Асноўную мэту яго існавання ўдзельнікі вызначылі так: быць разам, каб кожны мог дапамагчы самому сабе. Мне здаецца, што такі прынцып быў бы карысным не толькі для невялічкай суполкі з пяці чалавек...

Для ўдзелу ў гэтай выставе "Альянс-Арт" запрасіў далучыцца Анатоля Зельберга з сябрамі, якія прывезлі ў Мінск выдатныя вырабы са скуры і іншыя прыгожыя рэчы, зробленыя маладымі мастакамі. Між іншым, наведвальнікі салона змогуць не толькі паглядзець на ўсю гэтую прыгажосць, але і набыць тое, што асабліва спадабаецца, ды і цэны тут будуць, як прынята сёння пісаць, памяркоўныя. Дарэчы, з цэнамі, а дакладней, іх вызначэннем некаторыя праблемы ўсё ж узніклі: з аднаго боку, кожная ваза, жбанок ці скульптура -- непаўторны твор, зроблены ў адзіным экземпляры, уручную, і паўтору яго не ўбачыш ужо ніколі і нідзе, а з другога -- што рабіць і што пісаць на цэнніку, калі сёння амаль няма пакупніка, здольнага набыць гэты твор за яго сапраўдную цану. Падышла я да керамікі, выстаўленай у цэнтры салона і замерла: ніколі раней не даводзілася бачыць такіх дзіўных, непаўторных вырабаў. Можа, менавіта таму, што рабіў іх скульптар Уладзімір Церабун, яны атрымаліся такімі цудоўнымі і незвычайнымі. За абстрактнымі формамі праступаюць цалкам канкрэтныя вобразы, якія нагадваюць то баксёрскую пальчатку, то чалавечы мозг, то ўлюбёных, якія спляліся ў цесных абдымках. Кожны можа ўбачыць сваё, што падкажа фантазія і ўласнае светаадчуванне. А на маё пытанне, адкуль бяруцца такія разнастайныя і незвычайныя формы, Уладзімір Васільевіч паціснуў плячыма і сказаў, што гэтае пытанне трэба задаваць не яму, а самаму галоўнаму Творцу, бо толькі Ён ведае, адкуль і як з'яўляюцца ў свядомасці мастака новыя асацыяцыі і ідэі. Пасля гэтага я вырашыла пацікавіцца больш зямнымі пытаннямі, напрыклад, ці лепшае прывезлі сюды на суд сталічнай публікі гродзенскія мастакі. "Мы для гэтай выставы працавалі так, як і заўсёды, -- адказаў Уладзімір Церабук. -- З'явілася такая магчымасць -- выставіліся тут. А калі заўтра будзе, напрыклад, Ваўкавыск, гэта зусім не значыць, што мы павязём туды нешта горшае, бо мастак у першую чаргу адказвае перад сабою і павінен працаваць добра і сумленна незалежна ад таго, дзе будзе праходзіць выстава. Колькі б мы ні гаварылі, што мастацтва належыць народу, -- дадаў ён, -- але ж творца заўсёды ў першую чаргу зыходзіць са свайго густу і светаўспрымання, а прымаць гэта ці не -- справа гледачоў".

Асабіста мне здаецца, што гэтыя творы гледачы ўспрымуць, бо ўсё, што выстаўлена ў салоне, адзначана пячаткай непаўторнасці, прыгажосці і таленту. Прыемна і тое, што Мастацкі салон Саюза мастакоў дае нам магчамасць убачыць не толькі творы сталічных майстроў, але і даведацца, чым жывуць беларускія мастакі ў іншых гарадах.



**Вераніка ЧАРКАСАВА.**

**НА ЗДЫМКАХ: удзельнікі выставы гродзенскія мастакі Анатоль ЗЕЛЬБЕРГ, Гары МАЗУРАЎ, Сяргей СКАРАПУНАЎ, Уладзімір ЦЕРАБУН, Пётр ЯНУШКЕВІЧ, Наталля БАБРОЎСКАЯ, Аляксандр МАСЯЙКОЎ; творы ўдзельнікаў выставы.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**





У БЕЛАРУСАЎ ЛАТВІІ

# ЭСТАФЕТА ДАБРА І ШЧЫРАСЦІ

Значнай падзеяй у жыцці беларускай дыяспары Латвіі былі Дзяды -- ушанаванне памяці нашых продкаў.

Розныя абставіны ўсё неяк пазбаўлялі тутэйшых беларусаў гэтай мажлівасці. Так мінула Масленіца, пагрукала ў дзверы і здзіўлена адышла Радаўніца, ветліва паглядзела ў вакенца Сёмуха. Сапраўды, яшчэ шмат перашкод у нас, хто жыве ў адрыве ад маці-Радзімы, каб своечасова адзначаць нашы нацыянальныя абрадавыя святы. Асабліва такія, калі мы павінны аддаць нізкі паклон тым, каго ўжо няма сярод нас, жывых: даражэнькім бабулькам і дзядочкам, на каленях якіх нам было мякка і ўтульна, добрым нашым мамам і татам. У такую часіну з удзячнасцю ставімся да сваіх паважаных сваякоў, адданых сяброў і ўсіх, хто шмат зрабіў добрага для нашага жыццёвага станаўлення. Памерлі і тыя, у каго мы вучыліся, набіраліся мудрасці і дзякуючы намаганням якіх, упэўнена крочылі па сцежках жыцця да акрэсленай імі мэты. Бачыце, які вялікі шэраг атрымліваецца. Пільная патрэба ў тым, каб усім ім выказаць спачуванне, прывесці ў прыклад нашчадкам іх лепшыя духоўныя якасці. Іх няма, але яны жывыя тым, што мы нясём іх ідэі, мары, наказы.

Так прыкладна і адзначалі ў сваіх успамінах тыя беларусы латвійскай сталіцы -- Рыгі, што сабраліся разам 2 лістапада, у дзень Змітраўскіх Дзядоў. Былі тут і прадстаўнікі беларускага пасольства. Памяшканне, дзе праходзіла ўшанаванне памяці дарагіх людзей, прыбрана так, як быццам дома, у роднай хаціне ды на сваёй Радзіме.

Да прысутных звярнуўся старшыня Рады таварыства беларускай мовы "Прамень" Алесь Карповіч. Хто як змог, каму як спрыялі магчымасці, затое вельмі шчыра, часам з заплаканымі вачыма ўспомнілі мы, беларусы Латвіі, тых, хто назаўсёды пакінуў у нашых сэрцах добры след, спрыяў, адрываючы ад сябе кавалак хлеба, калі і самому жылося ледзь-ледзь, станаўленню нашага жыццёвага лёсу. Наша вечная пашана была і ахвярам Вялікай Айчыннай вайны, пакутнікам сталінскіх лагераў.

Змітраўскія Дзяды ў нас, у Рызе, закончыліся пажаданнем, каб ніколі не было такіх страт, каб усім нам засвяціў агеньчык надзеі на лепшую будучыню.

Гэтая думка была ў сэрцы кожнага беларуса, хто ўсе ж, нягледзячы на жыццёвыя нягоды, прыйшоў на Дзяды крышачку няўпэўненым, а выйшаў з прасветленым тварам і, здаецца, з мацнейшай верай у заўтрашні дзень. Яно і не магло быць інакш. У змрочныя часіны нас падтрымлівалі дзяды і наказвалі пры гэтым і нам працягваць руку падтрымкі адзін аднаму. Так яно і адбылося ў час ушанавання памяці нашых паважаных продкаў.

Вечна будзе пераходзіць з пакалення ў пакаленне вось такая эстафета дабра і шчырасці.

**Лявон ШАКАВЕЦ.**

Рыга.

*ЗАГАДКА СТАГОДДЗЯЎ*

# ПЫТАЙЦЕСЯ ПРА КРЫЖ У ПЫТАЛАВЕ

Мы ўжо пісалі пра крыж Ефрасінні Полацкай і яго ўзнаўленне. Хацелася б нагадаць, што ідэя рэканструкцыі славутага крыжа ўзнікала і раней. Копія яго ўжо існавала -- у Латгале, на абшарах былой Віцебскай губерні.

З магутнага Полацка, калыскі нашай дзяржаўнасці, уніз па цячэнню Дзвіны разам з крывіцкімі місіянерамі распаўсюджвалася ў свой час праваслаўе. У 992 годзе была афіцыйна ўсталявана Полацкая епархія. Падзвіжніца Ефрасіння была асветніцай не толькі для Полаччыны, але і для земляў, якія сёння ўваходзяць у склад латвійскай дзяржавы. Вось чаму гэтую божую ўгодніцу ўшаноўвалі і латгальскія праваслаўныя вернікі. Яе імя вельмі часта давалі немаўлятам...

Шчэ з часоў князёўны Рагнеды, уладальніцы Краславы, на латгальскай зямлі сталі ўзводзіцца цэрквы. Царква, асвячоная на пачатку нашага стагоддзя ў гонар прападобнай Ефрасінні, князёўны Полацкай, існавала, напрыклад, у Карсаве (Люцынскі павет).

Сяргей Сахараў, які быў не толькі таленавітым фалькларыстам і педагогам, але і даследчыкам праваслаўя ў Латвіі, пісаў, што амаль у кожнай праваслаўнай царкве Латгале, а таксама ў многіх іншых храмах Латвіі ёсць ушанаваныя іконы прападобнай Ефрасінні. А ў былой Яўнлатгальскай царкве (пазней Яўнлатгале было перайменавана ў Абрэнэ) у 1931 годзе была завершана ўнутраная аздоба бажніцы. Вось як апісвае гэтую падзею Сахараў у сваёй кнізе "Православные церкви в Латгалии" (Рыга, 1939 г.): "...у храме ёсць тры такія куточкі: адзін прысвечаны Божай Маці, і тут знаходзіцца копія каштоўнага крыжа прападобнай Ефрасінні, князёўны Полацкай, другі -- Ісусу Хрысту..."

У жніўні 1944 года горад Абрэнэ быў перададзены расійскай адміністрацыі. Так што зараз у Расіі, у Пыталаве, трэба пытацца пра копію крыжа першамайстра Богшы.

**Сяргей ПАНІЗЬНІК.**

Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:

Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").



НАШ АДРАС:

220005, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.

Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". Тыраж 6 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 49. Падпісана да друку 5. 12.1994 г.